

# БЛАКІТНЫ ПАКОЙ

*Пані дэ ля Рун*

Малады чалавек непакойліва хадзіў па вестыбюлі чыгуначнай станцыі. На ім былі сінія акуляры, і, хоць ён і не быў прастуджаны, ён бесперапынна падносіў да носа хустачку. У левай руцэ ён трымаў невялічкі чорны саквояж, у якім, як я пасля даведаўся, ляжаў шаўковы халат і шаравары.

Раз-пораз ён падыходзіў да дзвярэй, выглядаў на вуліцу, пасля даставаў гадзіннік з кішэні і звяраў яго з вялікім вакзальным. Цягнік адыходзіў толькі праз гадзіну, але ёсць людзі, якія заўсёды баяцца спазніцца. Гэта быў не той цягнік, на якім ездзяць тыя, хто спяшаецца: у ім было мала вагонаў першага класа. Гэта быў не той час, калі біржавыя дзялкі, абладзіўшы свае справы, едуць у свае загарадныя дамы, дзе іх чакае вячэра. Пачалі надыходзіць пасажыры, у якіх парыжанін распазнаў бы навакольных фермераў або дробных гандляроў з прадмесця. І, аднак, кожнага разу, як у будынак станцыі нехта ўваходзіў, кожнага разу, як перад дзвярмі спыняўся экіпаж, сэрца маладога чалавека ў сініх акулярах ледзь не лопалася, калені пачыналі дрыжаць, саквояж быў гатовы выпасці з рук, а акуляры зваліцца з носа, дзе яны, заўважым мімаходзь, сядзелі наўскасяк.

Але зрабілася яшчэ горш, калі пасля доўгага чакання праз бакавыя дзверы — адзінае месца, якое не было аб'ектам няспыннага сачэння маладога чалавека,— увайшла жанчына ў чорным з цёмнай вуаллю на твары і бурай саф'янавай торбай у руцэ, дзе, як я потым выявіў, быў цудоўны хатні халат і блакітныя атласныя пантофлі. Жанчына і малады чалавек пайшлі насустрач адно аднаму,

паглядаючы то налева, то направа, але толькі не перад сабою. Яны сышліся, іх рукі сустрэліся, і так яны стаялі моўчкі некалькі хвілін, трапяткія і задыханыя, ахопленыя тым салодка-балючым пачуццем, за якое я б аддаў сто гадоў жыцця філосафа.

Калі да іх вярнулася здольнасць гаварыць, маладая жанчына сказала (я забыўся ўдакладніць, што яна была маладая і прыгожая):

— Леон! Якое шчасце! Я б ніколі не пазнала вас у гэтых сініх акулярах.

— Якое шчасце! — сказаў Леон.— Я б ніколі не пазнаў вас пад гэтай чорнай вуаллю.

— Якое шчасце! — паўтарыла яна.— Хадземце хутчэй сядзем у вагон, пакуль цягнік не паехаў без нас!.. (І яна моцна сціснула яму руку.) Ніхто ні аб чым не здагадваецца. У гэты момант я еду з Кларай і яе мужам да яе на дачу, дзе я *заўтра* мушу з ёй расстацца... А яна ўжо гадзіну таму ад'ехала,— дадала яна са смехам,— а заўтра... прабавіўшы са мною *апошні вечар*... (яна зноў сціснула яму руку) заўтра раніцай яна правядзе мяне да станцыі, дзе я сустрэну Урсулу, якую я паслала перад тым да цёткі... О, я ўсё прадугледзела! Давайце возьмем білеты... Проста немагчыма, каб нас нехта пазнаў! Ой, а калі ў нас пытаюцца прозвішчы ў гатэлі? Я ўжо забылася...

— Пан і пані Дзюру.

— Ой, не. Толькі не Дзюру. У пансіёне быў шавец з такім прозвішчам.

— Ну, тады Дзюмон?..

— Дамон.

— Ну, добра, толькі ж у нас нічога не будуць пытацца.

Пачуўся звон, дзверы пачакальні расчыніліся, і маладая жанчына, старанна схаваная пад вуаллю, скочыла ў вагон са сваім спадарожнікам. Пазванілі другі раз, дзверы ў іх купэ зачыніліся.

— Мы адны! — радасна закрычалі яны.

Але амаль у той самы момант чалавек гадоў пяцідзесяці, увесь у чорным, з паважным і нудлівым тварам, увайшоў у купэ і сеў у куточку. Лакаматыў свіснуў, і цягнік паехаў. Маладыя людзі, адсунуўшыся як мага далей ад нечаканага суседа, пачалі ціхенька гаварыць, дзеля надзвычайнай перасцярогі — па-англійску.

— Шаноўны пане,— сказаў іх сусед на той самай мове, але са значна чысцейшым англійскім вымаўленнем,— калі ў вас ёсць сакрэты, дык, калі ласка, не выкладайце іх па-

англійску перада мною. Я англічанін. Мне вельмі прыкра, што я мушу вам замінаць, але ў другім купэ едзе адзін мужчына, а я прынцыпова не езджу ніколі ў адным купэ з адзінокім мужчынам... У яго твар Іуды. І ён мог бы спакусіцца вось на гэта.

Ён паказаў на свой саквяж, які ён кінуў побач на падушку.

— Да таго ж, калі я не засну, дык буду чытаць.

І сапраўды, ён сумленна паспрабаваў заснуць. Ён раскрыў свой саквяж, дастаў адтуль шапачку з брылём, надзеў яе на галаву і заплюшчыў вочы. Праз некалькі хвілін ён раздражнёна расплюшчыў вочы, дастаў з саквяжа акуляры і грэчаскую кнігу і пачаў уважліва яе чытаць. Каб дастаць кнігу, яму прыйшлося перавярнуць у саквяжы кучу рэчаў, накладзеных абы-як. Сярод іншага ён дастаў з самага споду даволі тоўсты пачак англійскіх банкавых білетаў, склаў іх перад сабою на сядзенні і, перш чым пакласці назад, паказаў іх маладому чалавеку і спытаўся, ці ён зможа абмяняць банкноты ў N***.

— Мабыць, зможаце. Гэта ж па дарозе ў Англію.

N*** было якраз тое месца, куды ехала маладая пара. У N*** ёсць адзін даволі чысты гатэльчык, дзе звычайна спыняюцца толькі ў суботу вечарам. Кажуць, што пакоі там даволі добрыя. Гаспадар і прыслуга не так далёкія ад Парыжа, каб мець правінцыйныя звычкі. Малады чалавек, якога я ўжо назваў Леонам, наведаў трохі раней гэты гатэль без сініх акуляраў, і яго сяброўка, выслухаўшы ягоную справаздачу, выказала жаданне наведаць гэтае месца.

Зрэшты, таго дня яна была ў такім добрым гуморы, што нават турэмныя сцены падаліся б ёй поўнымі хараства, калі б яе замкнулі ў іх разам з Леонам.

Тым часам цягнік ехаў далей, англічанін чытаў сваіх грэкаў, не зважаючы на спадарожнікаў, якія размаўлялі так ціха, як могуць размаўляць толькі закаханыя. Мабыць, я не надта здзіўлю маіх чытачоў, паведаміўшы, што гэта былі закаханыя ў поўным сэнсе гэтага слова, але ж прыкра было тое, што яны не былі жанатыя і былі прычыны, якія не дазвалялі ім ажаніцца.

Цягнік прыехаў у N***. Англічанін выйшаў першы. Пакуль Леон дапамагаў сваёй сяброўцы сысці з вагона так, каб не агаліць ножак, нейкі чалавек выскачыў на платформу з суседняга купэ. Ён быў бледны, нават жоўты, з запалымі і налітымі крывёю вачыма, няголены — знак, па якім часта пазнаюць небяспечных злачынцаў. Гарні-

тур ягоны быў чысты, але заношаны да дзір. Яго сурдут, некалі чорны, а цяпер шэры на спіне і на лакцях, быў зашпілены на ўсе гузікі, мабыць, каб схаваць яшчэ больш зношаную камізэльку. Ён кінуўся да англічаніна і загаварыў умольным тонам:

— Uncle![1]

— Leave me alone, you wretch![2] — закрычаў англічанін, і яго шэрыя вочы запаліліся гневам.

Ён павярнуўся і пайшоў прэч са станцыі.

— Don't drive me to despair![3] — не адступаў той, і ў голасе ягоным гучалі адначасова ўмольнасць і пагроза.

— Зрабіце ласку, павартуйце хвілінку мае рэчы,— папрасіў стары англічанін і кінуў саквояж пад ногі Леону.

Зрабіўшы гэта, ён схапіў назольнага маладога чалавека за руку, завёў ці, хутчэй, запіхнуў яго ў кут, дзе, як ён спадзяваўся, іх ніхто не пачуе, і там нейкі час гаварыў з ім, як здавалася, вельмі суровым тонам. Пасля ён дастаў з кішэні некалькі паперак, скамячыў іх і сунуў у руку чалавеку, які называў яго сваім дзядзькам. Той, не падзякаваўшы, узяў паперкі, павярнуўся і неўзабаве знік.

У N*** ёсць толькі адзін гатэль,і таму не трэба здзіўляцца, што праз некалькі хвілін усе героі гэтай праўдзівай гісторыі апынуліся менавіта там. У Францыі падарожнік, які мае шчасце мець побач з сабою добра апранутую жанчыну, можа быць пэўны, што атрымае найлепшы пакой у любым гатэлі. Таму мы, французы, лічымся самай ветлівай і пачцівай нацыяй у Еўропе.

Калі пакой, што далі Леону, і быў найлепшы ў гэтым гатэлі, дык заключыць з гэтага, што ён быў выдатны, было б занадта смела. Пасярод стаяў вялікі ложак з арэхавага дрэва з крэтонавымі фіранкамі, на якіх фіялетавай фарбай была выбіта таямнічая гісторыя Пірама і Тысбы. Сцены былі паклеены шпалерамі з выявай Неапаля і мноствам людзей. На жаль, некаторыя нетактоўныя падарожнікі ад нудоты прымалявалі вусы і люлькі да ўсіх твараў і мужчынскага, і жаночага полу, а на моры і на небе можна было прачытаць шмат розных глупстваў прозай і вершам, напісаных алоўкам. На гэтым фоне вісела некалькі гравюр: *Луі-Філіп складае прысягу канстытуцыі 1830 года; Першае спатканне Жулі і Сэн-Прэ; Чаканне шчасця* і *Шка-*

[1] Дзядзька! *(англ.)*
[2] Адчапіся ад мяне, нягоднік! *(англ.)*
[3] Не даводзьце мяне да роспачы! *(англ.)*

*даванні* з карцін Дзюбюфа. Гэты пакой зваўся блакітным, бо два фатэлі — справа і злева ад каміна — былі абшытыя блакітным плюшам, але ўжо шмат гадоў яны былі закрытыя шэрымі каленкоравымі чахламі з малінавымі галунамі.

Пакуль пакаёўкі завіхаліся вакол новапрыбылай жанчыны і прапаноўвалі ёй свае паслугі, Леон, хоць і закаханы, але не пазбаўлены здаровага розуму, пайшоў на кухню заказаць вячэру. Яму давялося ўжыць усё сваё красамоўства і некаторыя сродкі подкупу, каб яму паабяцалі вячэру ў пакой. З вялікім жахам ён даведаўся таксама, што ў галоўнай зале, гэта значыць побач з іх пакоем, панове афіцэры 3-га гусарскага палка, што прыбылі на змену паноў афіцэраў 3-га пяхотнага палка ў гарнізон N***, збіраліся сустрэцца разам у гэты самы дзень на развітальную вячэру, дзе будзе панаваць шчырая сардэчнасць. Гаспадар прысягнуў усімі багамі, што, калі не ўлічваць весялосці, уласцівае ўсім французскім вайскоўцам, панове гусары і панове пехацінцы былі вядомыя ва ўсім горадзе сваім лагодным норавам і прыстойнасцю і што іх суседства ніяк не будзе замінаць пані, тым болей што панове афіцэры не маюць звычкі сядзець за сталом пазней паўночы.

Калі Леон, не надта супакоены запэўненнямі гаспадара, вяртаўся ў блакітны пакой, ён заўважыў, што стары англічанін займаў пакой побач з ягоным. Дзверы былі расчыненыя. Англічанін сядзеў за столікам, на якім стаяла шклянка з бутэлькай, і з надзвычайнай увагай разглядаў столь, быццам лічыў мух, што па ёй хадзілі.

— Чорт іх бяры, гэтых суседзяў! — сказаў сабе Леон.— Англічанін хутка будзе п'яны, а гусары пойдуць адсюль яшчэ да паўночы.

Увайшоўшы ў блакітны пакой, ён найперш праверыў, ці запасныя дзверы былі добра зачыненыя і ці былі ў іх засаўкі. З боку англічаніна былі падвойныя дзверы, сцены былі тоўстыя. З боку гусараў сцяна была танчэйшая, але на дзвярах быў замок і засаўка. Усё ж гэта была значна надзейнейшая заслона ад цікаўных вачэй, чым фіранкі ў экіпажы, і, аднак, колькі людзей адчувае сябе ў фіякры схаванымі ад усяго свету!

Вядома ж, нават самая багатая фантазія не можа ўявіць сабе шчасця, паўнейшага за шчасце маладых закаханых, якія пасля доўгага расстання сустракаюцца сам-насам, далёка ад зайздросных і цікаўных вачэй, і могуць удосыць расказваць адно аднаму перажытыя пакуты і цешыцца

асалодай цудоўнага злучэння. Але д'ябал заўсёды знойдзе сродак уліць горкую кроплю ў келіх шчасця.

Джонсан пісаў, але не ён першы, бо ён запазычыў гэтую думку ў нейкага грэка, што ніводзін чалавек не можа сказаць: «Сёння я буду шчаслівы». Гэтую ісціну, прызнаную ўжо даўным-даўно найвялікшымі філосафамі, яшчэ дагэтуль не ведае значная колькасць простых смяротных і пераважная большасць закаханых.

Частуючыся ў сваім блакітным пакоі даволі пасрэднай вячэрай, што складалася з некалькіх страваў, ухопленых ад гусарскага банкету, Леон і яго сяброўка пакутавалі ад размоў, што чуліся з суседняе залы. Тэмы размоў былі далёкія ад пытанняў стратэгіі і тактыкі, і я ўтрымаюся ад іх пераказу.

Адна за адной ішлі недарэчныя гісторыі, амаль усе занадта вольнага зместу, час ад часу яны патаналі ў аглушальным рогаце, да якога часам цяжка было не далучыцца нашым каханкам. Леонава сяброўка не была недатыкай, але ёсць рэчы, якія непрыемна чуць нават сам-насам з каханым чалавекам. Становішча рабілася ўсё больш няёмкае, і калі панам афіцэрам збіраліся прынесці дэсерт, Леон палічыў патрэбным спусціцца на кухню і папрасіць гаспадара, каб ён папярэдзіў гэтых паноў, што ў пакоі побач з імі ёсць хворая жанчына, і папрасіў іх быць пачцівымі і рабіць трошкі меней шуму.

Гаспадар гатэля, як часта бывае падчас люднае вячэры, быў зусім збіты з тропу і не ведаў, за што брацца. У той самы час, калі Леон перадаваў яму паведамленне для афіцэраў, афіцыянт прасіў у яго шампанскага для гусараў, пакаёўка — партвейну для англічаніна.

— Я яму сказала, што ў нас няма партвейну,— дадала яна.

— Але ж ты і дурная. У мяне ёсць любое віно. Зараз я яму знайду партвейну! Ну-тка, прынясі мне лікёру, бутэльку віна за пятнаццаць су і графін гарэлкі.

Згатаваўшы ў адзін момант партвейн, гаспадар увайшоў у вялікую залу і перадаў прысутным Леонаву просьбу. Спачатку яна выклікала шалёную буру.

Пасля гулкі бас, які заглушаў усе іншыя галасы, пацікавіўся, што за жанчына была іх суседкай. Усе прыціхлі. Гаспадар адказаў:

— Праўду кажучы, панове, не ведаю, што вам адказаць. Яна вельмі мілая і вельмі сціплая. Мары-Жанна кажа, што ў яе на руцэ пярсцёнак. Цалкам магчыма, што

гэта маладая, якая прыехала сюды адзначыць сваё вяселле, як часам бывае.

— Маладая? — грымнулі сорак галасоў.— Дык хай яна прыйдзе выпіць з намі! Мы вып'ем за яе здароўе і навучым мужа, як спраўляць свае шлюбныя абавязкі!

Пасля гэтых слоў пачуўся грукат шпор, і нашы каханкі здрыгануліся, падумаўшы, што зараз іх пакой будуць браць прыступам. Але раптам пачуўся голас, які спыніў наступ. Гаварыў, відаць, камандзір. Ён паўшчуваў афіцэраў за нясціпласць, загадаў ім сесці, гаварыць прыстойна і не крычаць. Пасля ён дадаў пару слоў, але так ціха, што ў блакітным пакоі было не чутно. Афіцэры пачціва іх выслухалі, аднак сказанае абудзіла пэўную весялосць. З гэтага моманту ў афіцэрскай зале панаваў адноснь спакой, і нашы каханкі, благаслаўляючы збаўчую сілу дысцыпліны, маглі цяпер гаварыць трошкі вальней... Але пасля такога вэрхалу спатрэбіўся час, каб аднавіць пяшчотныя пачуцці, парушаныя неспакоем, дарожнымі турботамі і асабліва грубай весялосцю іх суседзяў. Аднак у іх узросце гэта не так цяжка, і яны хутка забыліся на ўсе непрыемнасці іх авантурнае выправы і думалі толькі пра яе станоўчыя вынікі.

Яны думалі, што заключылі з гусарамі мір. Ды дзе там! Гэта было толькі часовае замірэнне. У самы нечаканы момант, калі яны былі за тысячу лье ад гэтага падмесячнага свету, дваццаць чатыры трубы з падтрымкай некалькіх трамбонаў грымнулі вядомы марш французскіх салдатаў: *Перамога за намі!* Як ператрываць гэтую буру? Бедных каханкаў можна было толькі пашкадаваць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ну, шкадаваць мо было і не варта, бо ўрэшце афіцэры пакінулі залу і прайшлі ўрачыстым маршам перад дзвярмі блакітнага пакоя, грукаючы шаблямі і шпорамі, равучы адзін за адным:

— Добрай ночы, пані маладая!

Пасля ўсё сціхла.

Не, я памыляюся: на калідор выйшаў англічанін і закрычаў:

— Афіцыянт! Мне яшчэ адну бутэльку таго самага партвейну!

У гатэлі горада N*** запанаваў спакой. Ноч была ціхая, у небе свяціла поўня. Спакон веку ўсе закаханыя любяць глядзець на спадарожнік нашай планеты. Леон і яго сяброўка расчынілі акно, што выходзіла ў невялічкі сад,

і з прыемнасцю ўдыхнулі свежае паветра, напоўненае духмяным водарам павойніку.

Аднак сядзелі яны каля акна нядоўга. У садзе хадзіў нейкі чалавек, панурыўшы галаву, склаўшы рукі, з цыгарэтай. Леону здалося, што ён пазнаў пляменніка старога англічаніна, аматара добрага партвейну.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я не люблю лішніх падрабязнасцяў, дый мне, мабыць, і не трэба гаварыць чытачу пра тое, што ён сам можа лёгка сабе ўявіць, не расказваць пра ўсё, што адбывалася гадзіну за гадзінай у гатэлі горада N***. Скажу, аднак, што свечка, якая стаяла на незапаленым каміне блакітнага пакоя, дагарэла ўжо да паловы, калі з пакоя англічаніна, дагэтуль ціхага, пачуўся дзіўны гук, быццам упала нешта цяжкае. За гэтым гукам пачуўся нейкі не менш дзіўны хруст, а за ім — здушаны крык і нейкія няясныя словы, падобныя да праклёну. Маладыя насельнікі блакітнага пакоя здрыгануліся. Яны, відаць, раптоўна абудзіліся. На абаіх гэтыя гукі, якім не было тлумачэння, зрабілі амаль злавеснае ўражанне.

— Гэта наш англічанін нешта сасніў,— сказаў Леон і паспрабаваў усміхнуцца.

Ён хацеў супакоіць сваю сяброўку, але сам мімаволі задрыжаў. Праз дзве ці тры хвіліны дзверы ў суседнім пакоі, здаецца, асцярожна адчыніліся, пасля ціхенька зачыніліся. Пачуліся ціхія і няпэўныя крокі чалавека, які, відавочна, спрабаваў уцячы.

— Чортава карчма! — раззлавана сказаў Леон.

— Ах, гэта проста рай!..— адказала маладая жанчына і паклала галаву на плячо Леону.— Я паміраю, хачу спаць...

Яна ўздыхнула і амаль адразу заснула.

Адзін славуты мараліст сказаў, што мужчыны не надта гаваркія, калі ім няма чаго болей прасіць. Таму не трэба здзіўляцца, што Леон не спрабаваў падтрымаць размову і не разважаў наконт дзіўных гукаў у гатэлі. Аднак супраць волі яны займалі яго думкі, і ён звязваў іх ва ўяўленні са шматлікімі абставінамі, на якія, будучы ў іншым настроі, ён не звярнуў бы ніякай увагі. Яму прыпомнілася змрочная постаць пляменніка англічаніна. Калі ён пакорліва гаварыў з дзядзькам, вочы яго гарэлі нянавісцю, відаць, таму, што ён прасіў грошай.

Што можа быць прасцейшае для маладога і дужага чалавека, ды яшчэ даведзенага да роспачы, чым залезці з саду ў акно? Да таго ж ён жыў тут жа ў гатэлі, бо ўначы

гуляў у садзе. Можа быць... нават магчыма... несумненна ён ведаў, што ў дзядзькавым чорным сакваяжы ляжыць тоўсты пачак банкаўскіх білетаў... А гэты глухі гук, як удар кіем па лысай галаве!.. Гэты здушаны крык!.. Гэтыя жахлівыя праклёны! І пасля гэтыя крокі ў калідоры! У гэтага пляменніка быў твар забойцы... Але хто ж забівае ў гатэлі, поўным афіцэраў? Без сумнення, гэты англічанін як чалавек асцярожны зачыніўся на ўсе засаўкі, тым болей ведаючы, што гэты нягоднік ходзіць недзе паблізу... Ён яго асцерагаўся, бо не хацеў да яго падыходзіць з сакваяжам у руках... Ат! Да д'ябла гэтыя агідныя думкі, калі тут такое шчасце!

Вось што казаў сам сабе Леон. Заняты гэтымі думкамі, якія я не буду разбіраць падрабязней і якія паўставалі яму, нібы ў сне, ён няўцямна пазіраў на запасныя дзверы, што вялі з блакітнага пакоя ў нумар англічаніна.

У Францыі дзверы ўвогуле зачыняюцца дрэнна. Паміж гэтымі дзвярмі і падлогай была шчыліна сантыметры са два. Раптам з-пад гэтай шчыліны, ледзь асветленай водбліскам на падлозе, паказалася нешта чорнае і пляскатае, падобнае да ляза нажа, бо край, асветлены свечкай, уяўляў сабою тонкую бліскучую лінію. Гэтае нешта павольна пасоўвалася да блакітнага атласнага пантофліка, нядбайна кінутага побач з дзвярмі. Можа, гэта было нейкае насякомае накшталт станожкі?.. Не, гэта не насякомае. У гэтага няма пэўнай формы... Два ці тры бурыя пацёкі, кожны са светлай лініяй з краю, выпаўзлі з-пад дзвярэй. Падлога была нахіленая, і яны цяклі ўсё хутчэй... Вось яны пасоўваюцца, зараз дакрануцца да пантофліка. Усё ясна! Гэта вадкасць, і колер гэтай вадкасці цяпер выразна разглядаўся ў святле свечкі — гэта была кроў! І тым часам, як Леон глядзеў, знерухомеўшы ад жаху, на гэтыя агідныя пацёкі, жанчына працягвала спакойна спаць, саграваючы роўным дыханнем шыю і плячо свайго каханка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Спраўнасць, з якой Леон заказаў вячэру, прыехаўшы ў гатэль горада N***, дастаткова сведчыла пра яго светлую галаву, высокі інтэлект і прадбачлівасць. Ён і цяпер цалкам апраўдаў тыя рысы, што мы ўжо яму прыпісалі. Ён не зрушыўся з месца і скіраваў усю сілу свайго розуму на тое, каб прадухіліць жахлівую небяспеку, якая яму пагражала.

Я ўяўляю сабе, што большасць маіх чытачоў і асабліва чытачак, натхнёных гераічнымі пачуццямі, асудзяць паводзіны і бяздзейнасць Леона ў гэтым становішчы. Ён мусіў бы, скажуць мне, бегчы ў пакой англічаніна, каб схапіць

забойцу ці хоць бы пазваніць у званок, падняць на ногі ўсю абслугу. На ўсё гэта я б адказаў спачатку, што ў французскіх гатэлях званкі выкарыстоўваюць толькі як упрыгожанне і што іх матузкі не звязаны з ніякім металічным апаратам. Дадам пачціва, але катэгарычна, што хай сабе й нядобра пакідаць англічаніна паміраць у суседнім пакоі, але ж ніяк не ўхвальна ахвяраваць дзеля яго жанчынай, якая спіць на вашым плячы. Што б здарылася, калі б Леон узняў вэрхал і абудзіў увесь гатэль? Адразу б прыбеглі жандары і імперскі пракурор са сваім пісарам. Перш чым запытацца ў яго, што ён бачыў ці чуў, гэтыя панове, выяўляючы прафесійную цікаўнасць, перш-наперш сказалі б: «Як вашае імя? Вашы дакументы? А пані? Што вы рабілі разам у гэтым блакітным пакоі? Вы мусіце з'явіцца ў суд і сказаць, што такога і такога чысла а такой і такой гадзіне ўначы вы сталіся сведкамі такога і такога здарэння».

І вось якраз думка аб імперскім пракуроры і судовых службоўцах першая прыйшла ў галаву Леону. Жыццё часам ставіць перад сумленнем цяжкія пытанні: што лепш — не перашкодзіць забойству незнаёмага падарожніка або зняславіць і страціць каханую жанчыну? Не надта прыемна ставіць сабе такія пытанні. На іх і самы разумны не адкажа.

Такім чынам, Леон зрабіў тое, што на яго месцы зрабілі б многія: ён не зрушыўся з месца.

Утаропіўшы позірк у блакітны пантофлік і чырвоны струменьчык каля яго, ён доўга сядзеў як зачараваны, тым часам, як на скронях у яго выступіў халодны пот, а сэрца білася так, што было гатовае выскачыць з грудзей.

Безліч дзіўных і страшных думак не давалі яму спакою, і ўнутраны голас крычаў яму штохвіліны: «Праз гадзіну ўсе пра ўсё даведаюцца, і вінаваты будзеш ты!» Аднак, няспынна паўтараючы сабе: «Як жа мне выкруціцца?», ён урэшце заўважыў некалькі промняў надзеі. Ён падумаў:

«Калі мы пакінем гэты пракляты гатэль, перш чым высветліцца, што адбылося ў суседнім пакоі, дык, можа, тады паспеем знікнуць без следу. Тут нас ніхто не ведае, мяне бачылі толькі ў сініх акулярах, а яе — толькі пад вуаллю. Станцыя зусім побач, і праз гадзіну мы ўжо будзем далёка ад N***».

Прадумваючы гэтую выправу, Леон доўгі час вывучаў расклад цягнікоў, і цяпер ён прыгадаў, што а восьмай гадзіне ёсць цягнік на Парыж. Яшчэ трошкі часу — і яны

згубяцца ў гэтым вялізным горадзе, дзе хаваецца столькі злачынцаў. А хто ж здолее знайсці там двух невінаватых? Але ці не зойдзе хто да англічаніна да восьмай гадзіны? Вось у чым было пытанне.

Пераканаўшыся, што нічога іншага яму не застаецца, ён адчайным намаганнем страсянуў доўгае здранцвенне. Але як толькі ён варухнуўся, яго сяброўка прачнулася і бесклапотна яго пацалавала. Дакрануўшыся да яго халоднай як лёд шчакі, яна ўскрыкнула.

— Што з вамі? — трывожна спыталася яна.— У вас лоб халодны, як у мармуровай статуі.

— Нічога страшнага,— адказаў ён няўпэўнена.— Я пачуў грукат у суседнім пакоі...

Ён вызваліўся з яе абдымкаў і перш-наперш адсунуў пантофлік, прыставіўшы да запасных дзвярэй фатэль, каб схаваць ад сяброўкі жахлівую вадкасць, якая ўжо не зацякала далей і разлілася па падлозе даволі вялікай лужынай. Пасля ён прачыніў дзверы на калідор і ўважліва прыслухаўся. Ён нават наважыўся падысці да дзвярэй англічаніна. Яны былі зачыненыя. Гатэль ужо прачнуўся і заварушыўся. Пачынала днець. Конюхі чысцілі коней у двары, а з трэцяга паверха па сходах спускаўся афіцэр, грукаючы шпорамі. Ён ішоў кіраваць цікавым заняткам, больш прыемным для коней, чым для людзей, які мае спецыяльнае найменне: «засыпаць корм».

Леон вярнуўся ў блакітны пакой і з надзвычайнай асцярожнасцю, на якую толькі здольныя каханыя, шырока ўжываючы апісальныя выразы і змякчальныя словы, апісаў сваёй сяброўцы становішча, у якім яны знаходзіліся.

Небяспечна было заставацца; небяспечна было ад'ехаць занадта паспешліва; яшчэ небяспечней было чакаць у гатэлі, пакуль не раскрыецца страшнае здарэнне ў суседнім пакоі.

Няма патрэбы казаць, які жах выклікала гэтае паведамленне, колькі пасля гэтага пралілося слёз, якія высоўваліся безразважныя прапановы, колькі разоў няшчасныя каханкі кідаліся адно аднаму ў абдымкі, кажучы: «Прабач мне! Прабач мне!» Кожны лічыў сябе самым вінаватым. Яны паабяцалі сабе памерці разам, бо маладая жанчына не сумнявалася, што суд абвінаваціць іх у забойстве англічаніна, і, не будучы пэўнымі, што ім дазволяць абняцца на эшафоце, яны моцна сціснулі адно аднаго ў абдымках і заліліся слязьмі. Урэшце, нагаварыўшы шмат глупстваў і шмат пяшчотных і шчымлівых словаў, яны пагадзіліся,

сярод тысячы пацалункаў, што план, задуманы Леонам, гэта значыць ад'езд васьмігадзінным цягнікам, быў у сапраўднасці найлепшы і адзіна магчымы. Але заставалася пражыць яшчэ дзве жахлівыя гадзіны. Як толькі на калідоры чуліся крокі, яны ўздрыгвалі ўсім целам. Як толькі рыпелі нечыя боты, яны думалі, што прыбыў імперскі пракурор.

Яны сабралі свае сціплыя пакункі ў адно імгненне. Жанчына хацела спаліць у каміне свой пантофлік, але Леон падняў яго і, абцершы аб дываночак, пацалаваў і паклаў у кішэню. Ён здзівіўся, што ад яго пахла ваніллю,— яго сяброўка карысталася парфумай «Букет імператрыцы Яўгеніі».

Прачнуўся ўжо ўвесь гатэль. Афіцыянты смяяліся, пакаёўкі спявалі, салдаты чысцілі афіцэрскія мундзіры. Прабіла сем гадзін. Леон хацеў прымусіць сваю сяброўку выпіць кубачак кавы з малаком, але яна сказала, што ў яе так сціснулася горла, што яна памрэ, калі толькі паспрабуе зрабіць хоць адзін глыток.

Леон, уздзеўшы сінія акуляры, спусціўся аплаціць рахунак. Гаспадар папрасіў у яго прабачэння за вэрхал, які нарабілі афіцэры і які ён не мог ніяк растлумачыць, бо паны афіцэры былі заўсёды такія спакойныя! Леон запэўніў яго, што нічога не чуў і што ён цудоўна выспаўся.

— Але ж, напрыклад, ваш сусед з другога боку,— працягваў гаспадар,— ніяк не мог вас патурбаваць. Ён заўсёды ціхі. Магу закласціся, што ён яшчэ спіць як забіты.

Леон аблёгся на стойку, каб не ўпасці, а жанчына, якая спусцілася разам з ім, учапілася за яго руку, засланіўшы твар вуаллю.

— Ён мілорд,— працягваў бязлітасны гаспадар.— Яму заўсёды нясі ўсё лепшае. Зусім прыстойны чалавек! Але ж не ўсе англічане такія, як ён. Быў тут яшчэ адзін — во ўжо скнара. Усё яму занадта дарагое — пакой, вячэра. Ён захацеў сто дваццаць пяць франкаў за адзін англійскі банкаўскі білет у пяць фунтаў стэрлінгаў... Хоць бы не быў фальшывы!.. Дарэчы, пане, вы, пэўна, у іх разбіраецеся, бо я чуў, як вы гаварылі з пані па-англійску... Ці не фальшывы?

Сказаўшы гэта, ён паказаў яму банкноту ў пяць фунтаў стэрлінгаў. На адным ражку была маленькая чырвоная плямка, якую Леон зараз жа сабе растлумачыў.

— Думаю, што ён сапраўдны,— сказаў ён здушаным голасам.

— О, у вас яшчэ багата часу,— працягваў гаспадар.—

Цягнік ідзе толькі а восьмай, да гаго ж ён заўсёды спазняецца. Калі ласка, сядайце, пані, здаецца, вы стаміліся...

У гэты момант увайшла тоўстая пакаёўка.

— Хуценька гарачай вады,— сказала яна,— на гарбату для мілорда! Прынясіце яшчэ анучу! Ён разбіў бутэльку з вінoм і заліў увесь пакой.

Пачуўшы гэта, Леон упаў у крэсла, за ім — яго сяброўка. Ім раптам стала вельмі смешна, і яны ледзь стрымаліся, каб не зарагатаць. Жанчына радасна сціснула яму руку.

— Значыць, так,— сказаў ён гаспадару,— мы едзем не раней чым а другой гадзіне. Падрыхтуйце нам добры абед.

БЛАКІТНЫ ПАКОЙ

Упершыню ў бельгійскай газеце «Indépendance Belge» 6—7 снежня 1871 года. Увайшла ў зборнік «Апошнія навелы».

С. 346. *Пані дэ ля Рун.*— Так Мерымэ ў лістах да сяброў называў імператрыцу Яўгенію, жонку Напалеона III. Ларун — назва невялікай гары ў Пірэнеях, якую добра відаць з Біярыца, дзе месцілася імператарская віла. Гасцюючы там, Мерымэ не раз прагульваўся да гэтай гары з насельнікамі вілы.

С. 349. *Пірам і Тысба* — маладыя закаханыя, героі аднаго са старажытных міфаў. Калі на Тысбу напала львіца, ёй удалося ўратавацца, але яна згубіла сваю накідку. Пірам, знайшоўшы накідку і думаючы, што яго каханка загінула, канчае самагубствам. Тысба, знайшоўшы нежывога Пірама, забівае сябе.

*Жулі і Сэн-Прэ* — героі рамана Жан-Жака Русо «Юлія, або Новая Элаіза» (1761).

С. 350. *Дзюбюф,* Эдуард (1820—1883) — модны ў тыя часы французскі мастак акадэмічна-салоннага напрамку.

С. 351. *Джонсан,* Сэмюэль (1709—1784) — англійскі крытык і пісьменнік-мараліст, адзін з выдатных дзеячаў англійскага Асветніцтва.